*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)
№ 39 (199)
28 верасня 1994 г.
Кошт — 15 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **ПАЧАЛА ПРАЦУ ЧАРГОВАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.**

○ ***АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ З КІРАЎНІКАМІ АБЛАСНЫХ, ГАРАДСКІХ І РАЁННЫХ САВЕТАЎ.*** *У час свайго выступлення Прэзідэнт заявіў, што нельга дапусціць страты дзяржаўнасці, нельга ператварыць Беларусь у прыдатак якой-небудзь іншай дзяржавы. Зрабіўшы гэтую заяву, Прэзідэнт згадаў сваё нядаўняе інтэрв'ю Андрэю Каравулаву. Інтэрв'ю выклікала шматлікія каментарыі ў сувязі з тым, што Прэзідэнт у ім сказаў аб імкненні «80 працэнтаў беларускага народа ўз'яднацца з рускім народам». Аляксандр Рыгоравіч пацвердзіў гэтыя свае ранейшыя словы, аднак удакладніў, што імі ён толькі канстатаваў факт, але зусім не выказваў свой уласны пункт гледжання.*

○ **У ДРУКУ З'ЯВІЛІСЯ ВЕСТКІ**, па якіх на сённяшні дзень у нашай краіне выпушчана 88 назваў падручнікаў на беларускай мове і 33 назвы — на рускай. Амаль уся пачатковая школа перайшла на беларускамоўнае выкладанне.

○ ***УРАДАВАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ БЕЛАРУСІ НА ЧАЛЕ З МІНІСТРАМ ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ УЛАДЗІМІРАМ СЯНЬКО ЎДЗЕЛЬНІЧАЕ Ў РАБОЦЕ 49-АЙ СЕСІІ ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ ААН.*** *Міністр замежных спраў плануе правесці перамовы з генеральным сакратаром ААН Бутрасам Галі, сустрэнецца з амерыканскімі кангрэсменамі, прадстаўнікамі дзярждэпартамента, міністэрстваў і ведамстваў ЗША.*

○ **У ДРУКУ З'ЯВІЛАСЯ КАРОТКАЕ ЭКСКЛЮЗІЎНАЕ ІНТЭРВ'Ю КАРЭСПАНДЭНТА БЕЛІНФАРМА З ПРЭЗІДЭНТАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДРАМ ЛУКАШЭНКАМ**, у якім на адно з пытанняў ён адказаў: «Што датычыцца прэсы, то хачу адзначыць — яна часта іграе непрыгожую ролю ў стварэнні іміджа Прэзідэнта. Многія сёння імкнуцца «прашчупаць» мяне. У прэсе, як у незалежнай, так і ў дзяржаўнай, з'яўляюцца публікацыі, рэплікі, у якіх робяцца спробы кінуць у Прэзідэнта пробны камень. Але трэба разумець, што Прэзідэнт — гэта не проста Лукашэнка, што гонар Прэзідэнта — гэта гонар дзяржавы як кіраўніка яе. Таму я не дазволю растоптваць гонар краіны... Пакуль нам удаецца пазбягаць правакацый. Аднак часам у тым, што адбываецца, прыходзіцца вінаваціць і самога сябе. Так, ёсць мая віна ў тым, што ў Мінску гэтай восенню адбыўся «палітычны шабаш», іншых слоў падабраць не магу, — святкаванне перамогі пад Оршай. У далейшым такога не будзе. Я збіраюся выдаць указ, які вызначае два, так сказаць, гайд-паркі ў Мінску і аналагічныя месцы ў іншых гарадах. Там можна будзе святкаваць усё, што хочаш».

*Літаратурная мова яднае нацыю.*
*Стар. 2.*

*Ці правільна сказаў Мечыслаў Грыб?*
*Стар. 5.*

***Ніл ГІЛЕВІЧ,***
*народны паэт Беларусі, старшыня ТБМ імя Ф.Скарыны*

# МАЦІ — НЕ ПАМРЭ, МАЦІ — БУДЗЕ ЖЫЦЬ ВЕЧНА!

*Слова на ўрачыстым вечары ў гонар Свята беларускага пісьменства і друку 2 верасня 1994 г.*

Паважаныя таварышы, сябры беларускага пісьменства і друку! Для свята, якое святкуецца намі ўпершыню і якое, спадзяюся, стане традыцыйным, падстаў у нас дастаткова.

Яшчэ добрую тысячу гадоў назад пачало пашырацца на нашай зямлі пісьменства, усталёўвацца і развівацца кніжная культура. Яшчэ ў часы Полацкага і затым Тураўскага княства ў, часы Рагнеды і Усяслава, Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага. І ўжо тады гэта было сведчаннем прыроднай цягі нашых далёкіх прашчураў да асветы, да ведаў, да духоўнасці. Вядома, на пачатку, цягам цэлых стагоддзяў, станаўленне пісьменства і кніжнай справы на Беларусі адбывалася ў рукапіснай форме, з дапамогаю перапісчыкаў. З пачатку XVI ст. дзякуючы генію Францыска Скарыны — рукапісы кніг пачалі друкавацца на друкарскіх варштатах і тыражыравацца ў вялікай колькасці асобнікаў сярод шырокага люду паспалітага. Кніжнасць набывае ўсё больш свецкі характар.

Узнікненне беларускага кнігадрукавання — падзея такой гістарычнай важнасці, значэнне якой цяжка пераацаніць. Гэта быў вялізны крок наперад у пашырэнні пісьменства і адукацыі, асветы і культуры. Здзіўляюць размах і маштабы кнігавыдавецкай дзейнасці ў тагачаснай нашай дзяржаве. Колькі людзей далучылася да пачатага Скарынам подзвігу, людзей, якія зразумелі, што гэта за цуд — кніга, які гэта магутны сродак для развіцця асветы і навукі, для развіцця промыслаў, для ўздыму дабрабыту і, вядома ж, для маральнага і духоўнага выхавання людзей, сваіх суайчыннікаў. Міжволі пачынаеш думаць пра закладзеныя Богам таленты ў самой прыродзе беларусаў...

Ці шмат краін у Еўропе, ды і ў цэлым свеце, дзе б яшчэ ў XVI—XVII стст. было столькі друкарань, колькі іх было ў Вялікім Княстве Літоўскім, на этнічна беларускай тэрыторыі, уключаючы і тыя спаконвечна нашы землі, якія пазней крывавымі перакройшчыкамі карты свету былі адрэзаны ад Беларусі?.. Мала такіх краін можна назваць, мала, шаноўныя суайчыннікі, — краін, якія б параўналіся з Беларуссю ў развіцці кнігадрукавання. Ужо ў тыя часы на Беларусі пры манастырах, храмах, а перш за ўсё ў маёнтках буйных землеўласнікаў і ў дамах багатых гараджан існавалі тысячы бібліятэк, сярод якіх былі і такія кніжныя зборы, якія ўпрыгожылі б сталічныя і універсітэцкія гарады вялікіх еўрапейскіх дзяржаў! Дык чаму б і не ганарыцца сёння? А галоўнае — чаму б не давесці гэту ісціну да ўсяго народа нашага?..

На Беларусі складваўся і ўмацоўваўся культ Кнігі, культ асветы і адукацыі. Неспрыяльны гістарычны лёс у наступных стагоддзях вельмі перашкодзіў яго ўзвышэнню. І аднак жа, насуперак усім злым сілам, ён заставаўся жыць у душах беларусаў. Кніга заставалася быць для нас тым сонцам, да якога цягнецца ўсё жывое.

Дык ці мелі мы права не падумаць пра свята ў гонар яе вялікасці Кнігі, у гонар друкаванага слова наогул, у гонар нашага роднага беларускага пісьменства? Не мелі, канешне. І такое свята ў нашай свабоднай і суверэннай дзяржаве ўсталявана. Наша задача — зрабіць гэта свята ўсенародным, і найлепш — са сталаю датай, вызначыўшы пэўны дзень і абвясціўшы яго нерабочым, выхадным днём.

Свята беларускага пісьменства і друку — гэта свята асветы, адукацыі, навукі, культуры. Гэта свята павінна працаваць на ўздым нацыянальнай самасвядомасці, на развіццё пачуцця нацыянальнай годнасці ў маштабах усёй дзяржавы, на яднанне, згуртаванне ўсяго народа краіны на грунце беларускай ідэі, ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння. Гэты святочны дзень павінен быць кожны год тою вяхой, дзе мы прыпынямся, каб падвесці вынікі, што зроблена за год у сферы адукацыі і друку, як развіваецца наша пісьменства, як яно служыць нам, справе нашага нацыянальнага самасцвярджэння, як яно служыць у нас чалавеку, яго духоўнаму станаўленню.

*Вялікі клопат з малым Вітаўтам.*
*Стар. 6.*

Мы хочам чуцца пад гэтым небам людзьмі нароўні з людзьмі свету, мы хочам, каб нас паважалі, каб з намі лічыліся — як з народам, як з нацыяй, як з носьбітамі пэўнай культуры, пэўных духоўных традыцый. Але ж трэба разумець, што мы можам гэтага дасягнуць, толькі добра ведаючы саміх сябе, ведаючы праўдзівую гісторыю сваёй Бацькаўшчыны, ведаючы і шануючы імёны яе вялікіх сыноў і дачок, выдатных дзяржаўных мужоў і дзеячаў на ніве асветы і культуры. Мы толькі пачалі асвойваць праўдзівую гісторыю свайго народа, навуковую геаграфію сваёй зямлі, а нам ужо загадваюць выкінуць новыя падручнікі на сметнік, а нас зноў пачынаюць палохаць жупелам нацыяналізму — як 20, 40 і 60 гадоў назад. Як быццам нічога ў гэтым свеце не змянілася, як быццам таварышы ўвесь гэты час беспрабудна спалі, а зараз ачнуліся і яшчэ не паспелі агледзецца, што за надвор'е ў краіне.

Наша культура найлепш будзе сцверджана, калі мы не дазволім сабе сысці на аблудны, фальшывы шлях, калі будзем вернымі тым вялікім традыцыям, што былі закладзены ў старажытнасці і ў эпоху Рэнесанса. Краіна з такімі традыцыямі кнігадрукавання, кніжнай культуры, з такой мастацкай літаратурай мае ўсе падставы, каб быць у свеце сёння адной з самых культурных.

Мы ўсталявалі свята ў гонар кнігі — кнігі, якая вучыць розуму і дабрыні, якая ўзвышае і ўзбагачае душу чалавека, але тое, што мы бачым сёння на многіх кніжных прылаўках, — гэта ганьба, гэта крок назад ад заваяванага нават ва ўмовах таго ладу, які спрыяльным для беларускай кнігі не назавеш. Мы праходзім міма гэтых пачварных прылаўкаў з прадукцыяй бізнесменаў ад кнігадрукавання, якія бессаромна, ахопленыя нялюдскай прагай нажывы, зрабілі стаўку на бездухоўнасць, на нізкае і цёмнае ў чалавеку, — мы праходзім міма і жахаемся: якая ваяўнічая пошласць, які маляўнічы аўтапартрэт мяшчанска-буржуйскай сытасці, якое пераканаўчае сведчанне разгулу антыкультуры! Але не толькі гэта. А яшчэ — і якая пагарда да нашай мовы, да нашай нацыянальнай культуры, да нашых традыцый, да нашай духоўнасці! Да зямлі і краіны, дзе слова Кніга яшчэ і тысячу, і пяцьсот гадоў назад пісалася з вялікай літары, дзе Кніга была святыняй! І ці ж не смешна, што менавіта гэтыя вытворцы і

*Працяг на с. 2.*

# БЕЛАРУСАЎ ЯК НАРОД СФАРМАВАЛА ХРЫСЦІЯНСТВА

## (Гутарка з маладымі тэолагамі)

*13 ліпеня 1990 года ў Менску была створана суполка «Унія», якая адразу ж атрымала статут калектыўнай сябрыны Таварыства беларускай мовы. А ўжо 6 жніўня таго ж года ў менскім Доме літаратара адбылася вечарына-прэзентацыя часопіса, які таксама атрымаў назву «Унія». Трэба нагадаць: на той час у СССР, часткай якога была наша краіна, не існавала закона аб друку, і легальнасць дзейнасці выдаўцоў надавала выключна ТБМ. Часопіс рэдагаваўся на грамадскіх пачатках у прыватнай кватэры, а друкаваўся ў Латвіі — у Беларусі друкарні для яго не знайшлося. І да самага дня прэзентацыі стваральнікі новага выдання асцерагаліся, што іхняя дзейнасць будзе забаронена, а наклад часопіса рэквізаваны.*

*Што надавала «Уніі» адметнасць? Часопіс узнік з ідэі, якая пачала хваляваць многіх — вызначыць нарэшце, што ёсць нацыянальная духоўнасць, якое месца ў нашым жыцці займае Царква, якім чынам звязаны паміж сабой праваслаўе, лацінскае каталіцтва і унія ды што яны далі нашай краіне і нашаму народу. Пра гэта і была большасць матэрыялаў новага часопіса. «Вялікае значэньне для кожнага народа сьвету мае ягоная вера, якая ёсьць сутнасьцю нацыянальнае сьветабудовы. А якая вера ў нас, беларусаў?» — гэтае пытанне прапанавала абмеркаваць рэдакцыя «Уніі» сваім аўтарам і чытачам у першым нумары часопіса. Пачынаючы з другога нумара, часопіс з «Выдання беларускай уніяцкай моладзі»ператварыўся ў «Часопіс хрысціянскага сумоўя», які дапамагае сваім чытачам асэнсоўваць ідэі хрысціянства і выступае за дыялог паміж вернікамі і святарамі розных цэркваў і розных канфесій. І — вельмі істотна — мовай гэтага дыялога стала беларуская.*

*Сёння двое з заснавальнікаў суполкі «Унія» і стваральнікі часопіса — спадарыні Ірына Дубянецкая і Караліна Мацкевіч — атрымліваюць багаслоўскую адукацыю ў Лондане. Гутарку з імі карэспандэнта «Нашага слова» У.Панады, прысвечаную пытанням сувязі духоўнага і нацыянальнага, рэлігійным праблемам у Беларусі і ролі ў іх вырашэнні беларускай эміграцыі, прапануем нашым чытачам.*

**— На мяжы 80—90-х гадоў сярод прадстаўнікоў нацыянальнага руху моладзі пачаўся ўздым цікаўнасці да уніяцкай царквы, мовай набажэнстваў якой была беларуская. Мова стала прычынай звяртання вас, як і многіх, да ідэі уніяцтва?**

**К.М.**: Вера — справа глыбока індывідуальная. Спробы змешваць справы веры са справамі палітычнымі ці нацыянальнымі ніколі сябе не апраўдвалі. Так, нават сёння многія людзі, у тым ліку і уніяты, прыходзяць у святыні з нейкіх палітычных меркаванняў. Але ж гэта — толькі гульня, якая не дае магчымасці рэалізаваць сябе чалавеку ні ў палітычнай, ні ў духоўнай сферах. Такія людзі далёкія ад веры. Вера — не мода, а справа глыбока асабістая, справа ўласнага выбару. Сама я зрабіла яго на карысць уніі.

**І.Д.**: Шляхі да веры ў зняверанным свеце могуць быць самымі рознымі. Тут, у Беларусі, далучэнне да веры і сапраўды часам адбывалася праз абуджэнне напачатку палітычнай ці нацыянальнай свядомасці. Але гэты шлях — толькі адзін з магчымых.

**— Але ж дзейнасць ваша і іншых людзей — тых, што стварылі першыя уніяцкія абшчыны — была, па сутнасці, скіравана на адраджэнне ў Беларусі каталіцкай царквы ўсходняга абраду?**

**К.М.**: Сказана гучна, але гэта так. Мы неяк згадвалі, што ўзнікла раней — першыя сучасныя уніяцкія абшчыны ў Беларусі ці часопіс «Унія»? Аказалася, часопіс, які, фактычна, дапамог царкве. Ужо пасля таго, як ён быў створаны, як ідэя адраджэння уніі пачала шырыцца, да нас звярнулася шмат людзей — як з Беларусі, так і з-за мяжы, якія памятаюць унію і жадалі б далучыцца да яе аднаўлення, якія спадзяваліся, што царква ўжо існуе. Думаю, «Унія» і сапраўды стала штуршком да адраджэння уніяцтва па ўсёй краіне.

**— Да руху за адраджэнне грэка-рымскай царквы ў першую чаргу далучаліся людзі, нацыянальна свядомыя?**

**І.Д.**: Не абавязкова. Праўда, тут, у Менску, знайшлося нямала людзей, якія глядзелі на уніяцтва як на спосаб яднання нацыі — і праваслаўных, і каталікоў, як на нацыянальную беларускую царкву. Але большасць з тых, якія пачалі пісаць да нас, былі старымі людзьмі. Яны памяталі 20-я гады — час існавання апошніх прыходаў каталіцкай царквы ўсходняга абраду і хацелі б спрычыніцца да іх аднаўлення. Гэтыя людзі пісалі нам і часам гаварылі з намі на розных мовах, але яны былі беларусамі ў сэнсе больш глыбокім, чым мітынговая беларушчына асобных тагачасных адраджэнцаў.

**— Цікаўнасць да спраў веры выклікала ў вас жаданне атрымаць адпаведную адукацыю?**

**К.М.**: З аднаго боку, гэта нам было неабходна дзеля таго, каб рабіць сваю справу прафесійна. А з другога боку, нашы інтарэсы перараслі рамкі часопіса. Спробы зразумення веры прывялі нас да тэалогіі.

**І.Д.**: У Беларусі фактычна няма сваёй школы багаслоўя. Выкладанне гэтай дысцыпліны ў праваслаўных і каталіцкіх духоўных семінарыях мае іншыя, больш практычныя мэты і не адпавядае сучаснай патрэбе далучыць Беларусь да сусветнага развіцця хрысціянскай духоўнасці, а таксама абудзіць тут, у нас, сваю багаслоўскую думку і, такім чынам, зрабіць тэалогію арганічнай часткай нацыянальнай культуры. Пра адсутнасць у нас сваіх багасловаў сведчыць вельмі простая рэч — адсутнасць арыгінальных багаслоўскіх тэкстаў.

Багаслоўе і біблістыка — гэта вышыні гуманітарных навук ва ўсім свеце. Лепшыя розумы чалавецтва — прадстаўнікі ўсіх канфесій — стагоддзямі працавалі ў гэтай сферы. Але ўсё гэта праходзіла па-за Беларуссю. Тут была свая багаслоўская атмасфера ў часы Сярэднявечча, еўрапейскага Адраджэння і Рэфармацыі. У нас быў слаўны Кірыла Тураўскі, потым Францыск Скарына, Васіль Цяпінскі, Мялеці Сматрыцкі, Язэп Вельямін Руцкі. Але нацыянальная тэалагічная традыцыя так і не сфармавалася. У XX стагоддзі нашы выдатныя царкоўныя дзеячы — ксяндзы Станкевіч і Сваяк, айцы Гарошка і Падзява ды шмат іншых пісалі тэксты рэлігійна-багаслоўскага кірунку. Але звычайна гэта пісалася на нейкую патрэбу, з нейкай канкрэтнай мэтай. Базы тэалогіі створана так і не было. І сучасная Беларусь, сучаснае наша грамадства яшчэ проста не ведае, наколькі яму гэта патрэбна.

**К.М.**: Так, першае пытанне, якое мне задалі мае знаёмыя, калі я прыехала з Лондана на вакацыі, гэта — якую спецыяльнасць я атрымаю. І, пачуўшы адказ, адна кабета задумліва спытала: «А нужны ли Белоруссии такие специалисты?»

Гэтае пытанне мы, думаю, пачуем яшчэ не раз. Бо мы не вытвараем ніякіх канкрэтных прадуктаў. Мы не ўпісваемся ў эканамічную сістэму, знаходзячыся па-за ёй. І трэба стварыць патрэбу ў ведах і каштоўнасцях, якія мы зможам даць. А даць мы зможам шмат.

Таму першая наша задача — пачаць тое, што пазней утворыць цэлую школу тэалогіі ў Беларусі.

**— Школу уніяцкай тэалогіі?**

**І.Д.**: Паняцце школы абазначае распрацоўку базавых пытанняў багаслоўя, якія хвалявалі людзей на працягу тысяч гадоў. Бо тэксты, якія называюцца Свяшчэнным пісаннем, адны для ўсіх канфесій. Біблія на працягу тысячагоддзяў застаецца асноўным тэкстам для значнай часткі чалавецтва, і ў кожным стагоддзі ён прачытваецца па-свойму. Тэкст Бібліі аказаў неверагодны ўплыў на станаўленне ўсёй цывілізацыі. І, дарэчы, беларусаў як народ сфармавала не паганства, а хрысціянства — мы павінны пра гэта памятаць. Таму мы павінны вучыцца чытаць гэты тэкст — Біблію — і асэнсоўваць яго змест. Біблістыка — адна з самых сур'ёзных і паважаных у свеце навук. Яна патрабуе неверагодна шырокай адукацыі, пачынаючы ад ведання старажытных моў і дыялектаў, гісторыі краін і рэгіёнаў, народаў і іх культур і шмат чаго іншага. Біблія — гэта найглыбейшы тэкст, у якім кожнае слова нясе ў сабе велізарную і часта незразумелую нам інфармацыю. Мы павінны вучыцца разумець яе.

**— Значыць тое, да чаго вы імкняцеся, — гэта ператварэнне тэалогіі ў частку беларускай культуры?**

**К.М.**: Хутчэй, мы хочам уключыць беларускую культуру ў гэтую багаслоўскую плынь. Зрабіць біблістыку часткай беларускай культуры немагчыма — яна існуе ў іншым вымярэнні, бо багаслоўе, як і вера, — рэч панаднацыянальная.

**І.Д.**: Мы імкнёмся далучыць нашу духоўную культуру і традыцыі да агульных набыткаў чалавецтва. Бо без біблістыкі духоўная культура любой нацыі не можа заяўляць пра сябе як пра цэласную. Дарэчы, найбольшы культурны здабытак нашага народа — літаратура замяніла сабой недахоп прафесійнага багаслоўя. Творчасць нашых пісьменнікаў усіх эпох вельмі часта наскрозь прасякнута спантаннай біблістыкай і спантаннай жа тэалогіяй — прычым, вельмі, вельмі глыбокай. Можна было б прысвяціць гэтаму спецыяльныя літаратуразнаўчыя працы, і калі-небудзь яны, напэўна, з'явяцца. Але зусім іншая рэч — паставіць вывучэнне Свяшчэннага Пісання на прафесійны ўзровень.

**— Але ж сёння гэтаму перашкаджае мноства праблем, не апошняя з якіх — адсутнасць беларускіх перакладаў біблейскіх тэкстаў...**

**І.Д.**: Так, гэта велізарная праблема. Адукацыю трэба распачынаць, маючы хаця б некалькі розных перакладаў Свяшчэннага Пісання. Мы ж не маем ніводнага. Біблія ў перакладзе Янкі Станкевіча — адзіны пераклад, зроблены з арыгінала, але яго беларуская мова залішне спецыфічная, каб ужывацца ў выкладанні. Усе іншыя перакладчыкі працавалі толькі з Новым Запаветам і кнігай Псалмоў, ды і самі пераклады рабіліся не з моў арыгіналаў, а з лацiны, з царкоўнаславянскай ці нават з расійскай альбо польскай моў.

Каб стварыць беларускую тэалагічную школу, мы павінны мець некалькі розных перакладаў, бо ніводзін з іх не можа быць дасканалым. Мы мусім мець магчымасць гаварыць тым, хто будзе вывучаць Біблію, што з якога перакладу трэба браць, а што з'яўляецца адыходам ад аўтэнтычнага тэксту і інтэрпрэтацыяй перакладчыка. І такое становішча існуе ў час, калі ва ўсім свеце штогод робіцца новыя пераклады кананічных тэкстаў на свае мовы.

**І.Д.**: Да таго ж існуе цэлы пласт літаратуры на старажытнагебрайскай, старажытнагрэцкай мовах, лаціне — той, што датычыць першых стагоддзяў хрысціянства. Я не кажу ўжо пра ўвесь велізарны аб'ём багаслоўскіх тэкстаў, напрацаваных чалавецтвам за два тысячагоддзі. Таму сёння праблема перакладу для нас практычна невырашальная. Тут патрэбны час і патрэбныя людзі.

**— Дык у чым вы бачыце сваю задачу?**

**І.Д.**: Пачаць. Мы хацелі б працаваць у двух кірунках. Першы — карыстаючыся ўласнымі магчымасцямі і ўласнымі ведамі, пісаць тэалагічныя тэксты, гэта значыць рабіць справу самім. Часткай яе і стане працяг выдання «Уніі», выдання, прысвечанага пытанням тэалогіі, біблістыкі, гісторыі царквы, патралогіі і іншым. Другім кірункам мы бачым выкладанне — падрыхтоўку людзей, здольных працягнуць гэтую справу. Магчыма, гэта будзе факультэт ці кафедра пры адной з існуючых вышэйшых навучальных устаноў. А нашай марай застаецца стварэнне калі-небудзь асобнай тэалагічнай навучальнай установы, якая рыхтавала б людзей, здольных да багаслоўя, і адначасова займалася перакладам, ствараючы тэкставую базу, неабходную для нармальнага, гарманічнага развіцця беларускай культуры.

**— Якая перадгісторыя вашай вучобы ў Лондане?**

**К.М.**: Напачатку 1990 года, калі праца над першым нумарам «Уніі» толькі пачыналася, у Беларусь упершыню прыехаў а.Аляксандр Надсан, апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў за мяжой. Ён прывёз дапамогу ахвярам Чарнобыля. Тады, у сакавіку 1990 года, мы з ім пазнаёміліся і адчулі: гэта той чалавек, які ў стане зразумець нашы памкненні, дапамагчы нам і навучыць. Бо мы рабілі свае першыя крокі, а ён быў адзіным даступным нам афіцыйным прадстаўніком беларускай уніяцкай царквы ў свеце. Ён быў уражаны, калі сустрэў тут людзей, гатовых адрадзіць уніяцкую царкву. Потым, падчас наступных яго прыездаў, мы падтрымлівалі з айцом Надсанам шчыльныя кантакты. Ён выступаў і на вечарыне-прэзентацыі першага нумара нашага часопіса і быў вельмі расчулены, убачыўшы, што там адбывалася. Праз нейкі час зайшла размова аб тым, каб нам павучыцца, канешне, за мяжой, бо ў тагачасным Саюзе не было навучальных устаноў нашай арыентацыі. Тады мы не ўспрынялі гэтага ўсур'ёз: ну, можа, і трэба павучыцца, але ж тут мы маем працу, нейкія заняткі... Але раптам гэтая прапанова набыла канкрэтны змест: ехаць вучыцца да яго ў Лондан, каб атрымаць грунтоўную тэалагічную адукацыю. Спачатку нас запрасілі на год, проста каб даведацца, ці атрымаецца нешта ў нас. Гэта і сапраўды было нечакана, бо, як мы зразумелі пазней, галоўнай ягонай мэтай быў падбор хлопцаў, маючых святарскае пакліканне, каб даць ім адпаведную адукацыю і зрабіць іх святарамі. Гэтая праблема застаецца актуальнай і цяпер. А пра дзяўчат, якія могуць быць выключна свецкімі багасловамі, а.Аляксандр раней нават не думаў. І толькі пазнаёміўшыся з намі, ён вырашыў паспрабаваць.

**— Як называецца ваша навучальная ўстанова і што яна з сябе ўяўляе?**

**І.Д.**: Мы вучымся ў Лонданскім місіянерскім інстытуце. Гэта — філія вельмі вядомага ў свеце Лювэнскага універсітэта — аднаго з самых старажытных універсітэтаў свету.

**— Наколькі мне вядома, беларусы маюць свае традыцыі ў гэтым універсітэце?**

**К.М.**: Так, і традыцыі вельмі багатыя. Там калісьці існаваў нават беларускі

*(Працяг на с. 4.)*

## ГІСТОРЫЯ АЙЧЫНЫ — ВАЙСКОЎЦАМ

М.П.КАСЦЮК

# БЕЛАРУСЫ: ЖЫЦЦЁ Ў ТРЫВОЖНЫ І СУПЯРЭЧЛІВЫ ЧАС (канец 20-х — пачатак 40-х гадоў)

*Працягваем друкаваць раздзелы з новага вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі»*

30-я гады ўвайшлі ў гісторыю савецкай Беларусі, як адны з найбольш складаных і цяжкіх. Хаця жыццё праходзіла ў мірных умовах і характарызавалася не толькі самаадданай працай народа, знешне мажорным пафасам, але і жорсткай, бязлітаснай, добра спланаванай барацьбой з лепшымі прадстаўнікамі інтэлігенцыі, рабочага класа, сялянства.

Пачаткам усталявання дыктатарскага сталінскага рэжыму на Беларусі была барацьба з так званым нацыянал-дэмакратызмам. Яна праводзілася ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў. Пад канец 20-х гадоў грунтоўная ідэалагічная падрыхтоўка наступлення на прадстаўнікоў беларускага «нацыянал-дэмакратызму» пачала праяўляцца ў канкрэтных захадах. У рэзалюцыі верасьнёўскага (1928 г.) пленума ЦК КП(б)Б «Задачы камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі на бліжэйшы перыяд» было прапанавана шырока разгарнуць крытыку дробнабуржуазнай ідэалогіі, весці рашучую барацьбу супраць усіх праяў антыкамуністычнай ідэалогіі і немарксісцкіх ухілаў у дзейнасці навуковых устаноў БССР.

Канкрэтныя захады да гэтай барацьбы былі зроблены ў 1929 г., у так званы год вялікага пералому — пералому да таталітарных метадаў кіраўніцтва. Штуршок гэтаму быў дадзены ў сувязі з працай у маі-чэрвені 1929 г. у Беларускай ССР камісіі ЦКК УКП(б). Яе ўзначальваў старшыня ЦКК кампартыі Украіны В.Затонскі. Зыходзячы з яе высноў і ўлічваючы шматгадовую падрыхтоўку да барацьбы, у 1929 г. кампартыяй Беларусі была прынята ўстаноўка аб тым, што нацыянал-дэмакратызм з'яўляецца галоўнай небяспекай.

Для непасрэднага правядзення гэтай барацьбы былі зроблены адпаведныя змены ў кіраўніцтве. Першым сакратаром ЦК КП(б)Б стаў К.Гей. У сярэдзіне 1930 г. органы АДПУ рэспублікі ўзначаліў прысланы з Масквы Р.Рапапорт. Пад іх непасрэдным кіраўніцтвам была «раскрыта» нацдэмаўская, контррэвалюцыйная, антысавецкая арганізацыя, якая атрымала кодавую назву «саюз вызвалення Беларусі» («СВБ»).

Усяго было арыштавана 108 чалавек — буйных вучоных, літаратараў, іншых прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі. Фактычна першай ахвярай гэтай ганебнай кампаніі стаў У.М.Ігнатоўскі — вядомы вучоны-гісторык і грамадскі дзеяч, былы кіраўнік Наркамзема, затым Наркамасветы рэспублікі, старшыня Інбелкульта, першы прэзідэнт Беларускай Акадэміі навук, першы дырэктар Інстытута гісторыі, член бюро ЦК КП(б)Б і ЦБК БССР. Абвінавачаны ў нацыянал-апартунізме, у прыналежнасці да «СВБ», зняты з адміністрацыйных пасад, выведзены з выбарных органаў, выключаны з партыі, ён застрэліўся 4 лютага 1931 г.

Рашэннем калегіі АДПУ БССР ад 18 сакавіка 1931 г. наркам земляробства рэспублікі Д.Ф.Прышчэпаў, наркам асветы А.В.Баліцкі і некаторыя іншыя абвінавачаныя былі прыгавораны да 10 гадоў канцлагераў. 10 красавіка таго ж года былі вынесены пазасудовыя прыгаворы яшчэ 86 арыштаваным. Большасць з іх атрымала ад 3 да 5 гадоў турэмнага зняволення. Толькі на 18 чалавек справу спынілі. Але ў недалёкім будучым большасць з асуджаных і нават вызваленых зноў былі арыштаваны, і іх напаткаў трагічны лёс сталінскіх ахвяр. Адзначым, што ўсё следства па справе «СВБ» праходзіла пад пільным кантролем цэнтральных партыйных, савецкіх і следчых органаў Масквы.

Барацьба з «нацыянал-дэмакратызмам» супярэчліва пера-клікалася з палітыкай беларусізацыі. У ходзе кампаніі па разгрому «нацыянал-дэмакратаў» беларусізацыі быў нанесены моцны ўдар. Спагадлівае стаўленне да ўсяго беларускага атаясамлялася з нацыяналізмам. Суадносіны нацыянальнага развіцця і вялікадзяржаўных інтарэсаў цэнтральных партыйна-дзяржаўных структур адміністрацыйна-рэпрэсіўным шляхам былі вырашаны на карысць апошніх. У БССР, як і ва ўсёй дзяржаве, устанаўліваўся дыктатарскі сталінскі рэжым.

У тагачасным эканамічным развіцці вялікая роля належала індустрыялізацыі. Яе неабходнасць была відавочнай, бо па аб'ёму прамысловай прадукцыі на душу насельніцтва ў другой палове 20-х гадоў СССР адставаў ад развітых капіталістычных краін у 5-10 разоў. Яшчэ горшымі былі гэтыя суадносіны з Беларускай ССР.

Зыходзячы са спецыфікі эканамічнага становішча савецкай Беларусі, у партыйна-дзяржаўных рашэннях прадугледжвалася, што развіццё прамысловасці рэспублікі будзе ажыццяўляцца пераважна на базе мясцовых рэсурсаў сыравіны. У першую чаргу гэта былі харчовая, тэкстыльная, гарбарная галіны. Вядучае месца павінна была заняць перапрацоўка прадукцыі сельскагаспадарчай вытворчасці. І на самай справе, ужо ў 1927/28 гаспадарчым годзе на яе долю прыходзілася больш за палову агульнай прамысловай вытворчасці. Разам з тым развіваліся энергетычная, паліўная (у першую чаргу тарфяная), машынабудаўнічая, швейная, панчошна-трыкатажная, тэкстыльная і іншыя галіны.

Самаадданая праца народа, дапамога саюзнага ўрада, савецкіх рэспублік садзейнічалі даволі актыўнаму прамысловаму будаўніцтву. Ужо на працягу першай пяцігодкі (1928—1932 гг.) у БССР было пабудавана 78 буйных і 480 дробных і сярэдніх прадпрыемстваў. Сярод іх буйнейшая ў рэспубліцы электрастанцыя БелДРЭС, Гомельскі завод сельскагаспадарчага машынабудавання, Бабруйскі і Гомельскі дрэваапрацоўчыя камбінаты, швейныя фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» (Віцебск), імя Камінтэрна (Гомель), Віцебская панчошна-трыкатажная фабрыка і іншыя.

Аднак нават значныя тэмпы індустрыяльнага развіцця не дазволілі рэспубліцы выканаць заданні першай пяцігодкі. У рабоце прамысловасці было шмат пралікаў і цяжкасцей. Вялікія намаганні рабіліся для павышэння тэмпаў прамысловага развіцця ў гады другой і трэцяй пяцігодак. Толькі на працягу 1932—1937 гг. аб'ём прамысловай прадукцыі ў БССР узрос амаль у 1,9 раза. У лік дзеючых уступілі такія прадпрыемствы, як другая чарга БелДРЭС, Магілёўскі аўтарамонтны завод, Крычаўскі цэментны завод, Гомельскі завод шкляных вырабаў, Аршанскі льнокамбінат і іншыя. Валавая прадукцыя прамысловасці ўсходніх абласцей БССР у 1940 г. перавысіла ўзровень 1913 г. у 23 разы.

Гэта было вынікам самаадданай працы рабочых, сялян, інтэлігенцыі. Высокі працоўны энтузіязм паказаў рабочы клас рэспублікі. Але тэмпы прамысловага развіцця Беларускай ССР былі ніжэйшыя за агульнасаюзныя. Гэта прывяло да таго, што ўдзельная вага рэспубліканскай прамысловасці ў саюзнай зменшылася.

Нягледзячы на дасягненні ў развіцці розных галін прамысловасці, тут заставалася шмат нявырашаных задач. Так, толькі на асноўных гарадах Беларускай ССР дэфіцыт электраэнергіі складаў 25 тыс. кВт. Асабліва востра стаяла пытанне электразабеспячэння сталіцы рэспублікі Менска, жыхары якога забяспечваліся электраэнергіяй толькі на 25-40 працэнтаў.

І ўсё ж на працягу 30-х гадоў Беларуская ССР зрабіла значны крок наперад у прамысловым развіцці. За гады трох даваенных пяцігодак тут была створана новая матэрыяльна-тэхнічная база, пабудавана звыш 1000 прамысловых прадпрыемстваў, у тым ліку каля 400 буйных. Вялікую дапамогу ў гэтым аказалі саюзныя рэспублікі. У сваю чаргу і БССР уносіла адметны ўклад у агульнасаюзнае прамысловае будаўніцтва. Дакументальныя матэрыялы сведчаць, што матэрыяльныя і фінансавыя паступленні з БССР нярэдка перавышалі памеры дапамогі, якая аказвалася рэспубліцы.

Вынікам прамысловага развіцця стаў рост рабочага класа рэспублікі. У 1940 г. яго колькасць дасягнула амаль 277 тыс. чалавек, а ўдзельная вага ў складзе дарослага насельніцтва перавысіла 20 працэнтаў. Варта адзначыць, што прамысловасць фарміравалася як выключна дзяржаўная галіна гаспадаркі. На яе аснове былі ліквідаваны дробныя прадпрымальнікі, гандляры, рамеснікі. Выключная падпарадкаванасць цэнтру, узаемасувязь паставак і размеркавання вырабаў — адметныя рысы тагачаснай прамысловасці БССР. Нягледзячы на ўсе выдаткі, ажыццяўленне індустрыялізацыі з'явілася значным дасягненнем, якое адыграла важную ролю ў лёсе беларускага народа, як і іншых народаў СССР.

Найбольш цяжкім і драматычным накірункам пераўтварэнняў, праведзеных пад сцягам пабудовы сацыялізму, з'явілася калектывізацыя сельскай гаспадаркі. У час яе ажыццяўлення пераважалі націскныя метады работы. Гэта быў прамалінейны жорсткі шлях, які не ўлічваў ні аб'ектыўных законаў эканамічнага развіцця, ні асаблівасцей вёскі.

Ажыццяўленне палітыкі масавай калектывізацыі фактычна пачалося ўжо з сярэдзіны 1929 г. Калі на 1 чэрвеня ў Беларускай ССР у калектыўных гаспадарках знаходзілася 12,9 тыс. сялянскіх двароў, то да канца лістапада таго ж года — 77,7 тыс. За гэты час узровень калектывізацыі павысіўся з 1,4 да 9,8 працэнта, гэта значыць у 7 разоў. Акрамя таго, у рэспубліцы налічвалася 227 саўгасаў.

Актыўнае нарошчванне тэмпаў калектывізацыі адбылося ўснежні 1929 г. У выніку колькасць сялянскіх гаспадарак, якія аказаліся ў калгасах на пачатак 1930 г., была даведзена да 165,3 тыс., а працэнт калектывізацыі ўзняўся да 20,9. На працягу месяца паказчыкі павялічыліся больш чым удвая. Гэта значыць, што быў зроблены пераход да фарсіравання тэмпаў складанага сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага працэсу. Фактычна былі дасягнуты паказчыкі, прадугледжаныя першым пяцігадовым планам на канец пяцігодкі. Такая ж тэндэнцыя наглядалася ў многіх іншых рэгіёнах СССР.

*(Працяг будзе.)*

# БЕЛАРУСАЎ ЯК НАРОД СФАРМАВАЛА ХРЫСЦІЯНСТВА

**(Гутарка з маладымі тэолагамі)**

*(Працяг. Пачатак на с. 3.)*

фальклорны гурт — столькі студэнтаў-беларусаў — эмігрантаў ваеннага і паваеннага часу вучылася ў Лювэне. І цяпер там на тэалагічным факультэце вучыцца адзін хлопец з Беларусі — Уладзімір Селядцоў.

Накірунак нашай навучальнай установы раскрываецца ў яе назве. Яна рыхтуе місіянераў, і мы там — не профільныя студэнты. А ўсе астатнія навучэнцы — людзі, што належаць да розных рэлігійных кангрэгацый, місіянерскіх ордэнаў, якія існуюць па ўсім свеце. Выпускнікі інстытута працуюць у Афрыцы, Лацінскай Амерыцы, Індыі — у нехрысціянскіх рэгіёнах свету. Па сканчэнні інстытута яго выпускнікі высвячаюцца на святароў. Склад студэнцтва інтэрнацыянальны, там вучацца людзі з усяго свету — і з Еўропы, і з Афрыкі, і з Амерыкі. Інстытут невялікі, усе адзін аднаго ведаюць, адносіны паміж студэнтамі вельмі прыязныя.

**— Ці звяртаюць там увагу на ваша паходжанне?**

К.М.: Напачатку ўсе нас трактавалі як «Russian girls» — расійскіх дзяўчат. Да канца другога года нашага навучання ўсе ўжо вывучылі, што мы не расійскія дзяўчаты, і ў бібліятэцы на мапе адшукалі, дзе знаходзіцца Беларусь. Але пра нашу краіну там нічога не ведаюць. Пасля пытання «адкуль вы?» і адказу «з Беларусі» звычайна перапытваюць — адкуль? Па ўсёй Вялікай Брытаніі рэакцыя 99% людзей менавіта такая, а астатняя кажуць «а, з Бялорусі» — значыць, гэта палякі. Палякаў там шмат, і яны ці не адзіныя, хто ведае, што такое гэта Беларусь. У англійскай мове няма нормы вымаўлення назвы нашай краіны, і нават знаёмыя, звяртаючыся да нас, могуць запытаць: «Калі вы паедзеце ў Расію?»

**— Што ўяўляе з сябе інстытут?**

**І.Д.**: Гэта вышэйшая навучальная ўстанова — адна з шэрага падобных у свеце. Адукацыя, якую яна дае, — тэалагічная, не звязаная з місіянерствам. Місіянерства — профіль інстытута, а мы атрымліваем там ступені бакалаўраў тэалогіі. Тэрмін навучання на бакалаўра — шэсць гадоў, як і прынята па ўсім свеце: два гады філасофіі і чатыры гады багаслоўя. А каб атрымаць ступень магістра, трэба вучыцца яшчэ два гады, усяго восем. Нягледзячы на такі вялікі тэрмін навучання, мы адчуваем: асобныя дысцыпліны тут вельмі сціснуты.

**— Намаганнямі савецкай прапаганды паняцце багаслоўя ў свядомасці нашага грамадства стала сінонімам цемрашальства. Дык што вывучаеце вы, будучыя багасловы?**

**К.М.**: Памятаю, як калісьці я ехала ў электрычцы і чытала часопіс «Наука и религия» — ці не адзіны з даступных нам тут, які змяшчае публікацыі тэалагічнага зместу. І жанчына, што сядзела насупраць мяне, прачытаўшы назву часопіса, спытала: «Ты што, пападдзя?» Так разумеюць месца рэлігіі ў грамадстве сярэднестатыстычныя асобы. Ну, а тое, чаму нас вучаць...

**І.Д.**: Мы паступілі адразу на трэці курс, бо абедзве ўжо мелі вышэйшую адукацыю. Першыя два гады займаліся сістэматычным вывучэннем Свяшчэннага Пісання. А ўвогуле вывучаюцца біблістыка, тэалогія, літургіка, гісторыя Царквы. Біблістыка — гэта сістэматычнае вывучэнне кніг Старога і Новага Запаветаў, да яе далучаецца экзэгетыка — тлумачэнне тэкстаў. Вывучаецца гісторыя: разам са Старым Запаветам — гісторыя старажытнагебрайскага грамадства, якое спрычынілася да напісання многіх кананічных тэкстаў. У гэтым годзе мы скончылі вывучэнне грэцкай мовы — койнэ — мовы Новага Запавету і ў наступным годзе пачнём вывучаць старажытнагебрайскую мову — таксама біблійную — мову Старога Запавету. У Лювэне вывучаюцца яшчэ і арамейская, і асірыйская мовы. Дарэчы, у Беларусі адзін спецыяліст па мове Бібліі — старажытнагебрайскай ужо ёсць — гэта Віталь Зайка, які спецыяльна вывучаў яе ў Оксфардзе. Далей мы вывучаем патралогію, гісторыю Царквы старажытнай, сярэднявечнай і сучаснай, кананічнае права ды іншыя дысцыпліны.

**— Доўга яшчэ вам вучыцца?**

**К.М.**: Дзеля атрымання ступені бакалаўра нам трэба вучыцца яшчэ два гады. Дзеля далейшай адукацыі давядзецца яшчэ шукаць асобныя фонды ці фундатараў — у Беларусі або ў Англіі. Гэта пакуль што праблема.

**Распытваў У.ПАНАДА.**

СТВОРЫМ ГІМН БЕЛАРУСІ РАЗАМ

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**1. Мы, беларусы, — вольныя людзі!**
**2. Вольным заўсёды будзе наш шлях.**
**3. Сімвал свабоды — Сцяг Беларусі,**
**4. Бела-чырвона-белы наш Сцяг.**
**5. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**6. Бог захавае Белую Русь.**
**7. Наша адданасць — Вольнай Радзіме.**
**8. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**
**9. Праца народа моц і свабоду —**
**10. Годнасць гартуе з году ў год...**
**11. Веліч Радзімы — мужнасць народа,**
**12. Люд Беларусі — слаўны народ.**
**13. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**14. Бог захавае Белую Русь.**
**15. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**16. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**
**17. Край наш багаты, шчодры, дзівосны,**
**18. Рэкі павольныя, светлыя тут.**
**19. Мірна гамоняць бярозы ды сосны...**
**20. Цешце, нашчадкі, родны наш кут!**
**21. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**22. Бог захавае Белую Русь.**
**23. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**24. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**Ад рэдакцыі.** Паўтараем тэкст верша У. Жыгалкі, які ён прапанаваў дапрацаваць грамадою, каб такім чынам стварыць Гімн Беларусі. Радкі вырашана пранумараваць дзеля зручнасці спасылкі на іх у далейшым. Напамінаем: кожны, хто бярэ ўдзел у дапрацоўцы тэксту, можа ў межах агульнай задумы верша дасылаць уласныя варыянты радкоў ці асобных слоў, а таксама падтрымліваць альбо крытыкаваць заўвагу і варыянты іншых удзельнікаў сумеснай працы над тэкстам. Публікуючы іх, мы ўстрымліваемся ад рэдакцыйных каментараў. Дапрацоўка тэксту У.Жыгалкі па просьбе чытачоў працягнута да канца года. Чакаем вашых лістоў, шаноўныя чытачы!

* * *

*Мне падабаецца верш У.Жыгалкі «Жыве Беларусь!» Толькі 4-ы радок першага слупка я прапаную замяніць на: «Хай жа лунае ён у вяках». Такім чынам чытаем:*

**1. Мы, беларусы, — вольныя людзі!**
**2. Вольным заўсёды будзе наш шлях.**
**3. Сімвал свабоды — Сцяг Беларусі,**
**4. Хай жа лунае ён у вяках!**

**Хай жа ніколі ён не загіне!**
.................................................
.................................................
**Хай жа заўсёды жыве Беларусь.**

Мы ж ведаем, што наш Сцяг бел-чырвона-белы, і слова «Сцяг» не будзе паўтарацца два разы, а толькі ў трэцім радку.

***А.Ф.САЙКОЎСКАЯ,***
***настаўніца.***
*г.Бабруйск.*

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**Мы беларусы нязломныя людзі,**
**Упарта вядзем незалежнасці шлях,**
**І сімвал свабоды дзядоў не забудзем,**
**Іх бела-чырвоны з Пагоняю сцяг.**
**Штандар дарагі нам у нас не загіне,**
**Лунае пад сонцам для радасці дзён**
**Таму, хто адданы любімай краіне,**
**Каму, як жыццё, тут даводзіцца ён.**
**Нам праца за гонар, мацуе свабоду**
**Й годнасць гартуе няспынна штогод.**
**І добрую славу прыносіць народу.**
**Калі за дабро праліває свой пот.**
**Народ беларускі, ты, шчодры дарамі,**
**Служыць для карысці прыроду прымусь!**
**А шчасце людское не за гарамі,**
**Яно тут у нас, дзе жыве Беларусь.**

**(У аснову пакладзены**
**словы У.Жыгалкі).**
**Браніслаў ПЯТКЕВІЧ.**

## ТВОРЧАСЦЬ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

*Шаноўная рэдакцыя, думаў пра 200-годдзе вызвольнага паўстання Тадэвуша Касцюшкі і стаў запісваць гэтыя радкі. Некаторым такая вершаваная форма не падабаецца, іншыя, наадварот, хваляць, а ў мяне проста напісалася і ўсё.*

**Руслан РАВЯКА.**
г. Баранавічы

## САСОННІК

*Саджалі калісьці продкі*
*У памяць аб воях забітых*
*На месцы, дзе тых пахавалі,*
*Сасонкі — камлі з іконаў,*
*Каб люд не забыўся па часе*
*Радзіму сваю, за якую*
*Загінулі гожыя людзі,*
*Што зваліся тут інсургенты.*
*Уверх шыбавалі ў стагоддзях*
*Святыя прыгожыя дрэвы,*
*Палітыя кроўю народа*
*З суровай даўнешняю праўдай.*
*Начальства парэзала сосны,*
*Пад корань звяло на катэджы.*
*Паніштылі памяць нашчадкам*
*Наступнікі катаў даўнейшых.*

# НАРОДЖАНЫ НА ВОЛЗЕ

Зміцер Бартосік... Высокі, статны юнак з прыемнай усмешкай на вуснах, якая ручаінкай хаваецца ў чарнявых вусах. Прыгожы голас. З дзесяці гадоў пачаў жыць у Гомелі. А нарадзіўся на Волзе, у Рыбінску. Адчуўшы мастацкія здольнасці, у свой час паехаў вучыцца ў Расію, у Ніжагародскую тэатральную вучэльню. Там напісаў першыя вершы, захапіўся бардаўскай песняй. І вось з Ніжняга пацягнула Зміцера зноў у Беларусь. Мала таго, добра авалодаўшы беларускай мовай, стаў ствараць на ёй тэксты для сваіх песень. А вядома ж — верш ніколі не зайграе ўсімі колерамі вясёлкі, а тым больш не стане прыдатным для песні, калі яго не прапусціць праз сэрца, не насыціць непаўторнай народнай вобразнасцю. А ў Зміцера гэта ёсць. Нездарма ж маладых слухачоў адразу захапіла і ягоная песня «Калі мы станемся глыбокімі дзядамі». А ўвогуле пасля бардаўскага фестывалю «Аршан-ская бітва-92» Зміцера Бартосіка заўважылі не толькі ў Гомелі. Некаторыя газеты нават прадказалі яму «зоркавую» будучыню. Ды ён не зазнаўся, па-ранейшаму гэта сціплы, тâварыскі хлопец, які ўпарта працуе над сабой. Часта яго можна сустрэць на пасяджэннях гарадской суполкі ТБМ, ён па-ранейшаму спасцігае чароўныя таямніцы беларускага слова, захапляецца беларушчынай. Апошнім часам скончыў працу над некаторымі новымі творамі. Адну з песень ужо «абкатаў» на імпрэзе ў Менскім Доме літаратара. Слухачы паставіліся да песні вельмі прыхільна.

І вось слухаючы Зміцера Бартосіка, з захапленнем назіраючы за ім, іншым разам проста са шкадаваннем думаеш пра тых беларусаў, якія прыйшлі ў жыццё, здавалася б, ад беларускіх ніў і хат, але з пагардай ставяцца да свайго беларускага, у тым ліку да святога слова. Ды не згіне Беларусь, і ў знак аддзякі за клопат і прыязнасць да сябе, будзе і надалей яна, бы гаючая чароўная крыніца, дарыць сваім рупліўцам радасць жыцця і творчае натхненне.

**Ганна АТРОШЧАНКА.**
г.Гомель.

ЧЫТАЛІ?

# ВЫДАВЕЦКАЯ КАМПАНІЯ «ТЭХНАЛОГІЯ» ПРАПАНУЕ

Незалежная выдавецкая кампанія «Тэхналогія» выдала на англійскай мове нарыс Уладзіміра Новіка «Беларусь. Новая краіна ва Усходняй Еўропе». Нарыс прызначаецца для замежнага чытача, які жадае пазнаёміцца з Беларуссю. У ім падаюцца гістарычныя звесткі аб станаўленні беларускай дзяржаўнасці, канцэпцыі новай Канстытуцыі незалежнай Беларускай дзяржавы, а таксама прыводзіцца ацэнка сучаснага стану культуры і эканомікі.

У згаданым вышэй выдавецтве ўбачыла свет таксама кніга на англійскай мове вядомага прыхільніка беларускай гісторыі і культуры, адваката з Лондана Гая Пікарда пад назвай «Мінск». У ёй падаюцца агульныя звесткі пра Беларусь, гісторыя яе сталіцы і коратка расказваецца пра выдатныя мясціны горада.

* * *

Другое пашыранае выданне кнігі З.Пазьняка, Я.Шмыгалёва, М.Крывальцэвіча, А.Іова «Курапаты» на беларускай і англійскай мовах выпусціла ў свет незалежная выдавецкая кампанія «Тэхналогія». У ёй амаль на 200 старонках змешчаны артыкулы, фотаздымкі, навуковыя справаздачы, якія праўдзіва расказваюць аб страшных сталінскіх часах, калі на працягу некалькіх год амаль штодзённа на ўскраіку Менска гучалі стрэлы.

Многія дакументальныя і тэкставыя матэрыялы друкуюцца ўпершыню. Выданне выйшла абмежаваным накладам. Па пытаннях набыцця можна звяртацца па адрасу: **220007, Менск, вул.Магілёўская, 43. Тэл. 21-77-40, 27-19-40. НВК «Тэхналогія».**

# СПАДЧЫНА



**На здымку:** Менск. Касцёл. **Фота БЕЛІНФАРМа.**

